**СОНЦА:**
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 4.41, 21.34, 16.53;
Віцебск — 4.23, 21.32, 17.09;
Магілёў — 4.31, 21.23, 16.52;
Гомель — 4.36, 21.13, 16.37;
Гродна — 4.57, 21.49, 16.52;
Брэст — 5.07, 21.40, 16.33.

**МЕСЯЦ:**
Маладзік 1 чэрвеня.

**ІМЯНІНЫ:**
Ефрасінні, Міхаіла, Ігната, Якуба, Дзмітрыя, Пятра, Івана, Андрэя, Генадзя.

# ЗВЯЗДА

5 ЧЭРВЕНЯ 1992 г.
пятніца, № 112 (21890)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### ЕСЦЬ ПОПЫТ НА ЎСЁ, НАВАТ НА БАМБАСХОВІШЧЫ

**Нерухомасць і сродак хуткага руху — аўтамабіль сталі галоўнымі прадметамі цікавасці на праведзеным 2 чэрвеня чарговым мінскім аўкцыёне. Яго арганізатар, Кастрычніцкі райвыканком сталіцы такім чынам атрымаў прыбытак каля 3 мільёнаў рублёў, якія папоўняць рахунак дабрачыннага фонду «Надзея». Гэтыя сродкі будуць выдаткаваны на падтрымку бедных грамадзян, закладку жылога дома для інвалідаў з усімі неабходнымі службамі і г. д.**

Багатыя пакупнікі выкладвалі наступныя сумы: трохпакаёвая кватэра — 1 млн. 650 тысяч (стартавая цана — 350 тысяч), «Жыгулі»-чацвёрка — 450 тысяч (стартавая цана — 300 тысяч), месца для гаража — 50 тысяч, месца для гандлёвага кіёска на Прывакзальнай плошчы — ад 40 да 49 тысяч, пяцігадовая арэнда памяшкання пад офіс — 360 тысяч, арэнда бамбасховішча 110 тысяч. Пытанне, што там можна рабіць, прадпрымальныя людзі вырашаюць арыгінальна: адкрыць кафэ, вырошчваць грыбы...

## Сустрэчы ў МЗС Беларусі

Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка запрасіў для гутарак кіраўнікоў дыпламатычных прадстаўніцтваў: Францыі — Клода Жаліфа, Кітая — Ван Сінда і Генеральнага консула Польшчы Эльжбету Смулэк.

У час сустрэчы з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Французскай Рэспублікі ў Беларусі Клодам Жаліфам абмяркоўваліся пытанні двухбаковых адносін. Былі закрануты некаторыя аспекты супрацоўніцтва паміж міністэрствамі замежных спраў і правядзення кансультацый па ядзернаму раззбраенню, праблемах эканамічнага развіцця. Бакі пацвердзілі гатоўнасць развіваць культурныя кантакты. У прыватнасці, ужо ў бліжэйшы час прадугледжваецца абмен тэатральнымі пастаноўкамі, адкрыццё кафедры беларускай мовы ў адной з ВНУ Францыі.

***

Пётр Краўчанка і Генеральны Консул Рэспублікі Польшча ў Мінску Эльжбета Смулэк абмяняліся інфармацыяй аб палітычнай сітуацыі ў абедзвюх краінах. У ходзе гутаркі абмяркоўваліся некаторыя аспекты маючага адбыцца візіту Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава Шушкевіча ў Рэспубліку Польшча.

Кіраўнік беларускага знешнепалітычнага ведамства закрануў пытанні, звязаныя з адкрыццём Пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве. Было адзначана, што пры абмене дыпламатычнымі і консульскімі прадстаўніцтвамі з Польшчай Беларусь будзе прытрымлівацца прынцыпаў узаемнасці.

**Аддзел інфармацыі МЗС Рэспублікі Беларусь — БЕЛТА.**

## У Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Пасля прызнання паўнамоцтваў народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь на першай сесіі Вярхоўнага Савета дванаццатага склікання, якая адбылася ў маі 1990 года, нашы парламентарыі пачалі наладжваць кантакты з парламентамі і няўрадавымі арганізацыямі замежных дзяржаў. Беларусь стала ўваходзіць у цывілізаваны свет. І гэта натуральна.

Адны народныя дэпутаты вывучалі заваёвы рыначнай эканомікі ў Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі, практыку прыватызацыі жылля ў Рэспубліцы Польшча, удзельнічалі ў перагаворах з замежжам аб арганізацыі адпачынку дзяцей з забруджаных радыенуклідамі раёнаў Беларусі, вялі дзелавыя перамовы з прадстаўнікамі фірм Вялікабрытаніі. Другія абмяркоўвалі пытанні вялікай эканомікі, гуманітарнай палітыкі, культуры, вывучалі вопыт парламенцкай дзейнасці, па запрашэнню дзяржаўных і грамадскіх арганізацый замежных краін прымалі ўдзел у міжнародных форумах.

Вынікі гэтай работы, яе плён былі абмеркаваны на чарговым пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета, якое праходзіла пад старшынствам Станіслава Шушкевіча. Быў таксама разгледжаны план супрацоўніцтва Вярхоўнага Савета рэспублікі з парламентамі іншых дзяржаў на бліжэйшую перспектыву. І хоць ён будзе дапрацаваны, але ўжо відавочна, што найбольш значнае месца ў ім адводзіцца вывучэнню заканадаўстваў заходнееўрапейскіх і іншых краін свету аб праве ўласнасці на зямлю, прыватызацыю дзяржаўнай уласнасці, ажыццяўленню сацыяльнай абароненасці грамадзян.

Будуць вывучацца таксама замежны вопыт і практыка заканатворчай дзейнасці па пытаннях, звязаных з рэгуляваннем міжнацыянальных адносін і ажыццяўленнем нацыянальнай палітыкі, экалагічным становішчам увогуле і мнагамэтавай абароненасцю насельніцтва, пражываючага ў мясцовасці, жыхары якой пацярпелі ў выніку аварыі на ЧАЭС, і іншых.

У сувязі з падпісаннем у Ташкенце ў ходзе сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў СНД пагаднення аб прынцыпах і парадку выканання дагавора аб звычайных узброеных сілах у Еўропе (ЗУСЕ) узнікла неабходнасць ратыфікацыі гэтага пагаднення адначасова з дагаворам аб ЗУСЕ беларускім парламентам. Прэзідыум прыняў рашэнне пытанне аб ратыфікацыі гэтых двух дакументаў вынесці на чарговую сесію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Вырашаны некаторыя кадравыя пытанні.

Намеснікамі старшыні Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь зацверджаны Мікалай Пятровіч Корбут, Васіль Барысавіч Даўгалёў, Вячаслаў Іванавіч Радомскі.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета назначыў надзвычайнымі і паўнамоцнымі пасламі Пятра Вікенцьевіча Садоўскага ў Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі і Уладзіміра Лявонавіча Сянько ў Рэспубліцы Польшча. Ім прысвоены дыпламатычны ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла.

На пасяджэнні Прэзідыума былі разгледжаны і іншыя пытанні жыцця рэспублікі.

**М. БАБРОЎКА,**
**прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**
**(БЕЛТА).**

## І ЗНОЎ РАЗУМАЎ

ОРША. (**Мікалай ПЯТРОЎ, кар. БелаПАН**). Калектыў работнікаў пракуратуры горада Оршы выступіў у абарону свайго калегі Сяргея Дунца, звярнуўшыся з заявай на імя Генеральнага пракурора рэспублікі.

Нагадваем, Сяргей Дунец быў вызвалены з пасады намесніка пракурора Оршы рашэннем калегіі абласной пракуратуры. Сам апальны абаронца закона тлумачыць свае непрыемнасці крытычнымі выступленнямі ў адрас абласной пракуратуры, а таксама тым, што даў згоду быць на судзе сведкам па іску аб абароне гонару і годнасці вядомага прафсаюзнага дзеяча Мікалая Разумава. Нагадаем: раней, год назад, Разумаў абвінавачваўся ў арганізацыі блакады чыгункі ў Оршы, а затым гэта абвінавачванне з яго зняў Вярхоўны суд рэспублікі.

## Скаўты жывуць дружна

**Аб гэтым паведаміў нам скаўт-канцлер Аб'яднання беларускіх скаўтаў Аркадзь Жукоўскі, які прачытаўшы заметку аб рознагалоссях паміж яго арганізацыяй і Саюзам скаўтаў Беларусі, не згадзіўся з гэтым і запэўніў, што ў яго аб'яднанні нават ён не ведае, якой нацыянальнасці той ці іншы скаўт.**

## РАДЫЁФАКТ

Лабараторыя сацыялагічнага цэнтра БДУ правяла даследаванне на тэму «Сацыяльны партрэт беларускага прадпрымальніка». Асяроддзе, з якога выйшлі прадпрымальнікі: былыя заводскія інжынеры, якім дзяржава раней недаплачвала, навукова - тэхнічная інтэлігенцыя, якая не магла рэалізаваць сваіх ідэй у дзяржаўным сектары, былыя кіраўнікі з добрымі сувязямі і былыя «ценевікі».

Матэрыяльнае становішча прадпрымальнікаў: чатыры з палавінай працэнты могуць дазволіць сабе усё. 50 працэнтаў — забяспечаны нармальна (аднак дачу ці машыну купіць зараз не могуць), 17 працэнтаў ледзьве зводзяць канцы з канцамі (пачынаючыя бізнесмены).

Цяжкасці: на першым месцы ў прадпрымальнікаў — адсутнасць прававой базы і юрыдычных гарантый.

Жыццёвыя каштоўнасці: на першым месцы—незалежнасць. Грошы толькі на трэцім.

Калі эканамічная рэформа правaліцца, каля 48,5 працэнта бізнесменаў будуць змагацца да канца; 18,8—пакінуць бізнес і вернуцца ў дзяржаўны сектар; 11 — на заробленыя грошы будуць марнатраўцамі жыцця; 10—паедуць за мяжу; 7 працэнтаў — зоймуцца «ценявым» бізнесам.

***

**Гродзенскі абласны Савет прыняў рашэнне аб увядзенні з чэрвеня нарміраванага размеркавання нафтапрадуктаў для ўладальнікаў асабістага транспарту па лімітных картках. Аўтааматар мае права заліць у бакі сваёй машыны 80 літраў бензіну ў месяц. За парушэнне ўстаноўленага парадку і падробку картак—штраф ад 200 да 10 тысяч рублёў.**

***

Вялікая кітайская і берлінская сцены вядомыя ўсім. Хутка іх спіс папоўніць яшчэ адна—бабруйская. Яе ўзводзяць у горадзе на Бярэзіне вакол дзіцячага сада-ясляў нумар 65. Вышыня сцяны каля 3м, а ў даўжыню яна дасягнула ўжо 100 метраў. Падлічана, што на яе будаўніцтва спатрэбіцца не менш як 100 тысяч рублёў. Прызначэнне сцяны: адгарадзіць прахожых ад тэрыторыі сада-ясляў. Пытанне: ці не лепш было б на гэтыя грошы набыць цацкі, а агароджу зрабіць менш манументальнай і больш таннай?

## Урад шукае выхад з крызісу

**Як паведамлялася ўжо ў друку, Прэзідыум Савета Міністраў Беларусі разгледзеў і адобрыў асноўныя напрамкі палітыкі ўрада рэспублікі па прадухіленню спаду вытворчасці і фарміраванню ўмоў выхаду з крызісу. Упраўленне інфармацыі і грамадскіх сувязей Савета Міністраў прадаставіла БЕЛТА матэрыял аб гэтых асноўных напрамках. У ім вызначаны мэты і акрэслены шляхі іх дасягнення. Падрыхтаваны і максімальна канкрэтызаваны рабочы план, у якім вызначаны дакладныя даты і выканаўцы намечаных да вырашэння праблем.**

Аналіз сённяшняй абстаноўкі і прагноз далейшага развіцця сацыяльна - эканамічнай сітуацыі ў 1992 годзе дазваляюць зрабіць вывад аб тым, што цяпер эканоміка рэспублікі падышла да новага этапу эканамічнага крызісу. Нарастае спад вытворчасці, які непазбежна суправаджаецца разбурэннем грашовай, крэдытнай і фінансавай сістэм, стагнацыяй і зніжэннем узроўню жыцця народа, магчымым беспрацоўем. Другая асаблівасць гэтага этапу — шокавая лібералізацыя цэн, не праводзіць якую ўслед за Расіяй практычна немагчыма. Занадта вялікая залежнасць нашай рэспублікі ад расійскай сыравіннай і паліўна-энергетычнай базы, а таксама грашовай і цэнавай палітыкі ўрада Расіі.

Хваробы вядомыя, усе яны ў наяўнасці і пагражаюць эканоміцы рэспублікі, а насельніцтву зніжэннем жыццёвага ўзроўню. Акрамя таго ўзнікла рэальная перспектыва прыйсці да адмоўнага сальда ў гандлёвым балансе Беларусі з краінамі былога СССР.

Стратэгічны курс урада па пераадоленню крызісу заключаецца ў паслядоўным і больш паскораным фарміраванні рыначнай эканомікі з адначасовай глыбокай структурнай перабудовай народнагаспадарчага комплексу рэспублікі. Ён прадугледжвае разумнае згортванне рэсурсаёмістых вытворчасцей (у першую чаргу тых, якія вызначаюць адмоўныя гандлёвыя плацёжныя балансы рэспублікі з краінамі СНД) і інтэнсіўнае развіццё навукаёмістых вытворчасцей, што забяспечваюць рост экспартнага патэнцыялу і задавальненне патрэбнасцей самой рэспублікі. Разам з гэтым урад будзе мэтанакіравана праводзіць у жыццё тактыку эканамічных прарываў у тых сферах і галінах, дзе яны рэальна магчымыя і ў стане даць адносна хуткі эфект. Гэта сельская гаспадарка, вытворчасць тавараў народнага спажывання, канверсія той часткі ВПК, якая можа хутка пачаць вытворчасць тавараў для насельніцтва і абсталявання для галін групы «Б».

Для гэтага неабходна зняць абмежаванні на ўстанаўленне прамых камерцыйных сувязей паміж прадпрыемствамі і іншымі вытворцамі прадукцыі і паслуг нашай рэспублікі і іншых краін (акрамя ліцэнзуемай прадукцыі), а таксама абмежаванні на стварэнне сумесных прадпрыемстваў і інвесціраванне замежнага капіталу ў эканоміку рэспублікі.

Прадугледжана стварыць адзіны камерцыйны рэспубліканскі фонд бартэрных здзелак і камерцыі, права карыстання якім павінны атрымаць усе вытворцы, якія маюць заказы на экспартную прадукцыю, а таксама выпускаюць тавары народнага спажывання і сродкі вытворчасці для тэхнічнага пераўзбраення асабліва патрэбных рэспубліцы прадпрыемстваў, расшырыць круг дзейнасці дзяржаўных знешнеэканамічных органаў і рэзка павысіць яе эфектыўнасць. Пры гэтым асаблівая ўвага павінна быць удзелена расшырэнню нашай прысутнасці на рынках Усходняй і Заходняй Еўропы, Сярэдняга і Блізкага Усходу. А галоўнай задачай павінна стаць пераадоленне дыктату манапалістаў — пастаўшчыкоў сыравінных і матэрыяльна - тэхнічных рэсурсаў.

Намечана ўвесці заявачны прынцып стварэння новых недзяржаўных вытворчых прадпрыемстваў, выслабаніўшы іх як мінімум на два гады ад усіх падаткаў. Трэба будзе вывучыць магчымасць і мэтазгоднасць здачы ў канцэсію замежным фірмам асобных зямельных участкаў для правядзення на іх геолага - разведачных работ, арганізацыі здабычы і перапрацоўкі карысных выкапняў. Прызнана неабходным стварыць дзяржаўна - камерцыйны зямельны (іпатэчны) банк, надзяліўшы яго правам уласнасці на частку зямельнага фонду рэспублікі, продажу зямлі і выдачы пад залог ільготных доўгатэрміновых крэдытаў на набыццё неабходных матэрыяльна - тэхнічных рэсурсаў, а таксама адшукаць магчымасць атрымання за рубяжом мэтавага крэдыту (парадку 1,5—2 млрд. долараў) на стварэнне магутнасцей па выпуску і на набыццё сродкаў вытворчасці для фермерскіх гаспадарак.

Ваенна - прамысловаму комплексу трэба будзе самому навучыцца зарабляць дадатковыя сродкі на канверсію за кошт новых і тэрміновых мірных заказаў. А дзяржаўныя капітальныя ўкладанні вырашана пераважна накіроўваць на развіццё інфраструктуры рэспублікі, прапрацаваўшы пры гэтым пытанне аб выкарыстанні часткі дзяржаўных сродкаў для ўзвядзення жылля ў вёсцы жыхарам гарадоў, якія пажадалі пераехаць туды і заняцца сельскагаспадарчай вытворчасцю.

Неабходна таксама стварыць не менш двух-трох свабодных эканамічных зон.

Адна з важнейшых мэт структурнай перабудовы эканомікі рэспублікі — стварэнне ў ёй канкурэнтнага асяроддзя, якое неабходна для эфектыўнага выкарыстання рыначных механізмаў кіравання вытворчасцю на аснове разумнага разбуйнення існуючых вытворчых аб'яднанняў і іншых прадпрыемстваў, асацыяцый і арганізацый, а таксама ўмоў для паскоранага развіцця недзяржаўнага сектара эканомікі, прадстаўленага ў асноўным малым і сярэднім бізнесам.

Каб аслабіць эканамічную залежнасць ад іншых дзяржаў, неабходна распрацаваць спецыяльную праграму паляпшэння самазабеспячэння рэспублікі прадукцыяй, сыравінай і матэрыяламі за кошт расшырэння ўнутрырэспубліканскай кааперацыі, рэсурсазберажэння, стварэння сумесных прадпрыемстваў у краінах СНД. Мяркуецца завяршыць перагляд заданняў рэспубліканскіх навукова - тэхнічных праграм, а таксама разгледзець на конкурснай аснове навукова - тэхнічныя праекты, забяспечыўшы найбольш поўную рэалізацыю адобраных прыярытэтаў навукова - тэхнічнага развіцця рэспублікі і максімальна выкарыстаўшы на гэтыя мэты сродкі, выдзяляемыя з рэспубліканскага бюджэту на 1992 год. Прадоўжыцца перабудова фінансавання навукі, пошук неадкладных мер для забеспячэння паўнацэннага развіцця народнай адукацыі, аховы здароўя, культуры. У адпаведнасці з законам аб прыватызацыі жылля ўрад намячае ажыццявіць жыллёвую рэформу, якая прадугледжвае гарманічнае спалучэнне інтарэсаў дзяржавы, тэрыторый і асобных грамадзян, плаўны пераход ад усеагульнага размеркавання жылля да рынку жылля, развіццё ўсіх форм яго ўласнасці.

У грашова - крэдытнай і фінансавай палітыцы ўрад намеціў адначасова тры напрамкі: усямерная актывізацыя вытворчай дзейнасці з мэтай хутчэйшага пераадолення спаду вытворчасці, стварэнне ўласнай грашова-крэдытнай і фінансавай сістэмы, здольнай працаваць у аўтаномным рэжыме, і жорсткая фінансавая палітыка ў галіне расходавання дзяржаўных сродкаў. У прыватнасці, прадугледжана адпрацаваць і абгрунтаваць праграму дасягнення частковай унутранай канверсуемасці валюты, прапрацаваць варыянт прыцягнення для гэтых мэт доўгатэрміновых замежных пазык у СКВ, вывучыць магчымасць, межы і спосабы выкарыстання раздзяржаўлення і прыватызацыі

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

## КРЫХУ КАРЭЙСКАГА ШАРМУ ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІКІ

Па запрашэнню ўрада Беларусі ў Мінску знаходзілася дэлегацыя паўднёвакарэйскай карпарацыі «Дэу». 2 чэрвеня гасцей прыняў Старшыня Савета Міністраў рэспублікі Вячаслаў Кебіч.

— Дасягнутыя тут дагаворанасці пераўзышлі нашы чаканні, — сказаў кіраўнік дэлегацыі старшыня карпарацыі «Дэу» Кім Ву Чунг. — Мы нанава адкрылі для сябе Беларусь, выявілі інтэлектуальны патэнцыял і вытворчасці, здольныя канкурыраваць на сусветным рынку. Мы неадкладна пачынаем стварэнне сумесных прадпрыемстваў па выпуску высакакласнай радыёэлектроннай тэхнікі, электрабытавых прыбораў, тавараў народнага спажывання.

Пасля завяршэння сустрэчы кіраўнік урада рэспублікі Вячаслаў Кебіч даў эксклюзіўнае інтэрв'ю карэспандэнту БЕЛТА:

— Мне вельмі падабаецца, што з Паўднёвай Карэяй устанаўліваюцца цесныя дзелавыя адносіны. Гэта прамы вынік нядаўняй паездкі нашай урадавай дэлегацыі ў Сеул. Тады ж мы пабывалі і на прадпрыемствах карпарацыі «Дэу».

Пазней «Дэу» прыслала да нас сваіх спецыялістаў, якія вывучылі магчымасці нашай прамысловасці. А цяпер у Мінск прыехалі кіраўнікі карпарацыі, каб заключыць кантракты. Толькі што мы падпісалі рад дакументаў. З іх вынікае, напрыклад, што фірма «Мілавіца» ў хуткім часе будзе пераасняшчана навейшым абсталяваннем, пасля чаго ў два разы павялічыць аб'ём сваёй прадукцыі, якая карыстаецца, нават я чуў, велізарным попытам у жанчын. Палавіну выпускаемых «Мілавіцай» звышпланавых вырабаў «Дэу» возьме сабе. Гэта і будзе разлік за пастаўленую тэхналогію:

Вельмі зацікавіў фірмачоў «Інтэграл». Дзесяць спецыялістаў гэтага прадпрыемства пройдуць за кошт «Дэу» стажыроўку ў Карэі. Такую ж увагу карэйцы ўдзялілі НДІ ЭВМ, дзе заключылі кантракт на сумесную распрацоўку камп'ютэраў. Прычым дагаварыліся, што выпуск вырабаў будзе наладжаны на сусветным узроўні і збыт застаецца за «Дэу». Маторнаму заводу карпарацыя прапануе супрацоўніцтва ў вырабе складаных вузлоў для рухавікоў. А ў трактарнага і аўтамабільнага заводаў мае намер закупляць асобную гатовую прадукцыю.

Я высока ацэньваю перспектывы супрацоўніцтва з карпарацыяй «Дэу». Яны ўнушаюць аптымізм. Нашы прадпрыемствы атрымаюць выхад на якасна новы тэхналагічны ўзровень, а рэспубліканскі бюджэт папоўніцца валютай, неабходнай для рэфарміравання эканомікі ў цэлым.

**Валянціна МЕНШЫКАВА.**
**кар. БЕЛТА.**



НАРОДНЫ ЛЯЧЭБНІК

## Айбаліт XVII стагоддзя

### СА СТАРАЖЫТНАЙ ГАМЕАПАТЫІ

● ПРЫ ПРАСТУДЗЕ хвораму давалі піць раствор воцату з імбірам, пасля чаго ўкладвалі спаць, добра захутаўшы ў цёплыя звярыныя шкуры.

● **ПРЫ РЭЎМАТЫЗМЕ на спіну клеілі пярцовы пластыр. Перац, як і імбір, прывозілі з Індыі.**

● АНГІНУ лячылі так: «адкрывалі кроў» пад языком, а потым прымушалі пацыента паласкаць горла гарэлкай, настоенай на шафране, пялёстках ружы і іншых травах. Пры летніх ангінах абавязкова прыпісвалі хвораму кожны дзень есці чырвоныя парэчкі.

● **ПРЫ КАРЫЁЗЕ лекар закладваў у хворы зуб кветку гваздзікі.**

● ПРЫ МАЛАКРОЎІ назначалі лімоны (іх куплялі і ўжывалі ў ежу ў салёным выглядзе).

● **Мускатны арэх прымянялі як МАЧАГОННЫ СРОДАК.**

● ХВОРЫМ З ВЫСОКАЙ ТЭМПЕРАТУРАЙ «адкрывалі жыльную кроў», каб вывесці з арганізма жар. Пасля гэтай малапрыемнай працэдуры доктар (тэрапеўт) рэкамендаваў хвораму паесці юшкі са свежых акунёў і ракаў або смажанай рыбы, папярэдне паліўшы яе лімонным сокам. А вось рэдзьку і хрэн у гэтым выпадку есці было нельга.



● **ПРЫ ВОНКАВЫХ ПАШКОДЖАННЯХ хірург прыкладваў да хворага месца свежае лісце капусты, гарчыцы, арэшніку.**

● ЯЗВЫ прамывалі выцяжкамі цыбулі, часнаку, буракоў, хрэну.

● **У ГНОЙНУЮ РАНУ засыпалі тоўчаную бярозавую кару — і гной знікаў.**

● ПРЫ САРДЭЧНЫХ ЗАХВОРВАННЯХ пілі настойку ландышу.

● **ПРЫ АГУЛЬНЫМ АСЛАБЛЕННІ арганізма назначаўся адвар з лісця дзьмухаўца.**

● Каб выклікаць ПЕРАРАЗМЕРКАВАННЕ карысных і шкодных сокаў у арганізме, урач праколваў скуру хворага і закладваў у разрэз порцыю перцу з мыш'яком або сокам люціка. Нягледзячы на пакуты пацыента, такі «пластыр» не здымалі на працягу 40 дзён, пакуль сярознае выдзяленне не дасягне максімальных памераў.

● **Аматарам МАГІЧНЫХ ЗЕЛЛЯЎ прапаноўвалі тоўчаную косць адзінарога, прывезеную з Амстэрдама. Верылі, што гэта лепшы сродак пры атручэннях, воспе, ліхаманцы, а таксама з'яўляецца добрым патагонным.**

● НЕ МЕНШУЮ РЭПУТАЦЫЮ меў «безуй» — камень, які знаходзіцца ў вантробах некаторых жывёлін. Яму прыпісвалася сіла проціяддзя.

● **З лякарстваў ЦАРСКАЙ АПТЭКІ асаблівым попытам карысталася «ракавая мазь». Яе рыхтавалі з масла, мяса рака, драўлянага алею і разнастайных спецый.**

● Самай папулярнай пры двары заставалася ГАРЭЛКА-АПАПЛЕТЫКА. Бабы, мускатны арэх, карыца, перац, размарынавыя кветкі, шалфей, карані півоні—усё гэта настойвалася на спірце ядлоўца і гуляфнай гарэлцы. На жаль, мы цяпер і не ведаем, што гэта. Канешне, гэтым лячылі розных арыстакратаў. Просты люд карыстаўся сродкамі больш сціплымі. Але вось што дзіўна: у Маскве XVII стагоддзя было ўсяго два віды аптэк: царская і для людзей «усялякіх чыноў». І хапала! Ні чэргаў, ні дэфіцыту лякарстваў. Праўда, горад быў тады меншы. І правіцелі лепшыя...

**Газета «Хозяин» (Масква).**





## Гэты смачны ліст капусны

**Капуста паказана людзям, хворым падаграй, вадзянкай, таму што яна валодае мачагоннымі ўласцівасцямі і выводзіць уратныя солі, нармалізуючы водна-салевы абмен. Здробненая свежая і кіслая капуста рэгулюе работу кішэчніка, узмацняе сакрэцыю страўнікавага соку, паляпшае страваванне. Заўважана, што свежая капуста, з'едзеная нанач, робіць сон больш глыбокім, заспакойвае нервовую сістэму.**

**Каб пахудзець,** схільныя да атлусцення людзі карыстаюцца капуснай дыетай. Гэта правільна: татранавая кіслата, якая ўтрымліваецца ў ёй, нармалізуе тлушчавы абмен у арганізме, дапамагае падтрымаць малады, здаровы выгляд.

**У народнай медыцыне** часта карысталіся сокам свежай капусты.



**Для ўмацавання арганізма** яго давалі хворым на авітаміноз. А вясной нагул раілі піць сок і дарослым, і дзецям, апрача тых, канешне, каму капуста проціпаказана.

**Як мачагоннае** сок прымаюць па паўшклянкі тройчы на дзень на працягу тыдня. Добра ён дзейнічае пры гастрытах і паніжанай кіслотнасці, нават лечыць язву страўніка. Але пры павышанай кіслотнасці строга проціпаказаны.

**Народныя лекары лічаць,** што свежы капусны сок, змяшаны з цукрам, «разбівае макроту», «праганяе хрыпату», таму часта рэкамендуюць яго пры лячэнні кашлю. Пры ангіне сокам, разведзеным з вадой, палошчуць горла: ён валодае антысептычнымі ўласцівасцямі. Па той жа прычыне капусныя лісты прыкладваюць да запаленых і ацёкшых частак скуры. А гнойныя раны ачышчаюць так: свежыя лісты здрабняюць, змешваюць з яечным бялком і накладваюць на хворае месца. Таксама лечаць і апёкі, гнойныя язвы. Пры галаўным болі капусныя лісты прывязваюць у выглядзе кампрэса на лоб.

**Зваранымі ў малацэ лістамі** лячылі залатуху ў дзяцей: лісты здрабнялі і змешвалі з высеўкамі. З гэтай масы рабілі бліны і прыкладвалі да пашкоджанай скуры. Вульгарныя барадаўкі выводзілі капусным сокам на працягу дзесяці дзён. Іншы раз для гэтага карысталіся сокам сырой бульбы.

**Лячыць і аздараўляць арганізм** можна з дапамогай не толькі свежай капусты, але і кіслай. Яна дапамагае пры атэрасклерозе, выводзіць халестэрын, карысная пры атлусценні. Сок кіслай капусты танізуе кішэчнік, дапамагае пазбавіцца ад запораў: на шклянку соку дадаюць дзве сталовыя лыжкі алею.

**Капуста — расліна жаночага роду.** Магчыма таму ёй ёсць што прапанаваць жанчынам. Распараныя лісты прыкладваюць да малочнай залозы, калі ў маладой маці сочыцца малако. Такі кампрэс умацоўвае залозу, але не змяншае колькасці малака, што надзвычай важна. Калі ж малако ў залозе згушчаецца, таксама трэба пакласці капусны кампрэс.

**У касметыцы прымяняюць маскі,** у якія ўваходзіць капуста. Для сухой скуры з пігментнымі плямамі: змазаць твар алеем, потым накласці «капусную кашу». Для тлустай: здробненую кіслую капусту нанесці на твар, праз дваццаць хвілін зняць і змазаць твар крэмам.

**Калі валасы тонкія і сякуцца,** капусны сок, разведзены папалам з сокам шпінату, умацуе іх і надасць прыемны бляск: ім змазваюць скуру галавы.

